# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 20 (1566) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 18 МАЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.



## ДА X З'ЕЗДА ПАРП

### ПЛЁННАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў НАРАЎЦЫ

Пад лозунгам „Праграма партыі праграмай працоўных" 20 красавіка адбылася перадз'ездаўская гмінная партыйная канферэнцыя ў Нараўцы. Удзельнічалі ў ёй 54 дэлегаты і запрошаныя госці, між іншым, сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП Станіслаў Сухадольскі і намеснік дырэктара Акруговага праўлення дзяржаўных лясоў (ОЗЛП) Тадэвуш Міхалоўскі.

З дакладам Экзекутывы Гміннага камітэта ПАРП выступіў 1 сакратар ГК Аляксандр Плева. У дакладзе знайшлі адлюстраванне важнейшыя пастулаты, з якімі выступілі члены паасобных партарганізацый на сваіх сходах, на якіх абмяркоўвалі праект Праграмы партыі.

У першую чаргу заўвагі ў адрас гміннага камітэта, што павінен мець большы ўплыў у галіне кадравых спраў. Падборка асоб на кіруючыя пасады ў паасобных установах і на прадпрыемствах павінна кансультавацца з членамі сакратарыята ГК. Высокія пасады неабходна давяраць заслугоўваючым на пашану людзям з вялікім аўтарытэтам у сваім асяроддзі.

У Нараўчанскай гміне адчуваецца вялікі недахоп лекараў, а перш за ўсё стаматолагаў. Пустуюць вясковыя асяродкі здароўя ў Старым Ляўкове і Семяноўцы. Акцыі пад лозунгам „Белыя нядзелі" гэтай праблемы не вырашаюць.

Паасобныя ПОП самакрытычна аднесліся да сваёй дзейнасці і да працы ўстаноў і прадпрыемстваў, абслугоўваючых сельскую гаспадарку. Работнікі гміннай спулдзельні „Сялянская самапомач" ахвотна падпісваюць дагавор на кантрактацыю, напрыклад, бульбы, а пасля яе не купляюць. Прадаўшчыкі зачыняюць крамы, калі ім уздумаецца. У вясковых крамах рэдка калі можна купіць свежы хлеб. За булачкамі трэба ехаць ажно ў Беласток. Маргарын часамі даводзіцца са свечкай шукаць. ГС не хоча купляць макулатуры і бутэлек.

Чаму больш ходкія тавары даступны толькі работнікам ГС-у? Чаму ў спажывецкіх крамах няма ў продажы гастранамічных вырабаў? Чаму павінна заміраць культурнае жыццё ў вёсках Лука, Альхоўка і Ляшукі, дзе прадпрыемства „Рух" ліквідавала клубы прэсы і кніжкі?..

У гміне змяншаецца колькасць пунктаў рамесных паслуг. Каб змалоць мяшок збожжа, трэба ехаць на млын у Гайнаўку або Міхалова. Доўга трэба распытваць у паасобных вёсках, дзе яшчэ можна падкаваць каня. Не ўсе ведаюць, як знайсці шаўца або рымара.

Многа было крытычных заўваг адносна паслуг, якія павінна выконваць спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў (СКР). Кааператыў мае замала сельскагаспадарчых машын і рэдка калі тэрмінова выконвае паслугі ў пасяўную пару або сенакос. Зараз прадаў некалькі трактараў ды заняўся прадукцыяй, зусім не звязанай з сельскай гаспадаркай. бо ажно для Шлёнска. Прадукуе і возіць на поўдзень краіны абсталяванне для капальняў. А карысці з таго ніякай. Купілі яны аўтамабіль, замест, напрыклад, ратацыйнай касілкі. Дырэктары СКР значна павысілі сабе месячную зарплату. Затое зарплаты трактарыстаў і кіраўнікоў ПУМ як былі нізкія. так засталіся.

Моладзь з Нараўкі і навакольных вёсак дамагаецца. каб адкрылі кавярню. На гэта ёсць у Нараўцы адпаведнае памяшканне.

(Працяг на стар. 4)



Выступае хор гміннага асяродка культуры ў Нараўцы (у конкурсе „Беларуская песня-86" заняў у катэгорыі апрацаваных фальклорных песень сярод вялікіх калектываў трэцяе месца).

ДНІ БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧЫ

## ГАСПАДАРЧЫ ПАКАЗ

Ужо традыцыйна, у гадавіну падпісання Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе паміж Польшчай і СССР, у нашай краіне адбываюцца Дні савецкай культуры. Сёлета гэтыя Дні сталі Днямі Беларусі ў Польшчы.

18 красавіка ў Польшчу прыехала афіцыйная дэлегацыя Таварыства савецка-польскай дружбы на чале з віцэ-прэм'ерам (намеснікам старшыні Савета Міністраў) БССР Вадзімам Іванавічам Крыцкім. У складзе дэлегацыі — намеснік старшыні Таварыства савецка-польскай дружбы Ніна Сільвестраўна Нерат, прадстаўнікі навукі, культуры, дзяржаўнага планавання, прадстаўнікі вялікіх прадпрыемстваў.

Савецкія госці прывезлі на Дні Беларусі вялікую гаспадарчую выстаўку „Навука, тэхніка, эканоміка БССР", выстаўку жывапісу аднаго з вядучых мастакоў Беларусі М. Савіцкага, а таксама два мастацкія калектывы: беларускі народны ансамбль песні і танца „Маладосць" з Віцебска і прафесіянальны калектыў з Мінска „Чараўніцы". Запланавана было таксама шэраг мерапрыемстваў, як сустрэчы на фабрыках і ва ўстановах. паказы фільмаў аб Беларусі, варшаўская кавярня „Тамара" падрыхтавала для гасцей верашчаку і беларускі боршч. Але аб гэтым — у наступных нумарах „Нівы". Сёння толькі аб гаспадарчых справах.

Урачыстае адкрыццё выстаўкі адбылося дакладна ў 41-ую гадавіну падпісання Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе ў варшаўскім Доме Дружбы.

Беларускую афіцыйную дэлегацыю на чале з віцэ-прэм'ерам Беларусі прывітаў прэм'ер Польшчы Збігнеў Меснер. Упрыгожыў адкрыццё выстаўкі сваімі выступленнямі мастацкі калектыў „Маладосць" з Віцебска.

Перад аглядам выстаўкі віцэ-прэм'ер Беларусі В. І. Крыцкі разам з таварышамі з дэлегацыі сустрэўся з польскімі журналістамі на прэс-канферэнцыі. Прэсу цікавіла, як выглядае сённяшняя Беларусь на фоне гаспадаркі СССР, яе гаспадарчыя планы ў сувязі з пастановамі апошняга з'езда партыі, а таксама гаспадарчае і культурнае супрацоўніцтва з Польшчай.

І вось некалькі дадзеных.

Плошча БССР — 207,6 тыс. кв. км (1% тэрыторыі СССР).

(Працяг на стар. 4)




## КАБ НАС ШАНАВАЛІ ІНШЫЯ

Мне цяжка будзе гаварыць з Рышардам Бутайлам на тэму ягоных выказванняў у „Адгалосках“ („Ніва“ ад 20 красавіка 1986), бо ён падтрымлівае і адначасова падпіраецца аўтарытэтам Пятра Байко. А Пятра Байко я вельмі шаную за розум, працавітасць і ветлівасць. Зрэшты, я шаную ўсіх людзей, хаця па мне гэтага мо й не відаць. Аднак, не быў бы я Петручуком, калі б прамаўчаў тое, чаго, на маю думку, прамаўчаць нельга.

Жыць... Жыць можна і без песень, і без мовы, і без зямлі, і без жаваранка. Абы быў хлеб, да хлеба сала, гумавыя боты на ногі і нейкі кут, каб выспацца.

У адным месцы „Адгалосак“ Р. Бутайла пытае: „Ці мова — гэта вызначальнік нацыянальнасці?“ І сам адказвае: „Не“.

Цяпер я скромна запытаю: а што з'яўляецца вызначальнікам нацыянальнасці?

Зараз пастараюся адказаць на гэтае пытанне, наколькі змагу. Але, пакуль што, аб чымсьці, звязаным з тым.

Напэўна кожны з нас, старэйшых, чытаў кніжку Аляксандра Бека „Валакаламская шаша“. Там афіцэр перад байцамі ставіць пытанне: „Што такое айчына?“ Салдаты канкрэтна і катэгарычна не маглі даць яму адказу, бо не ведалі. З нашай нацыянальнасцю падобна, калі маем на ўвазе наш кут.

Калі, дапусцім, прападзе наша мова і не будзем навучаць дзяцей беларускай мове, перастанем друкаваць беларускую паэзію і прозу, не будзем спяваць родныя песні і апранаць калектывы ў нацыянальную вопратку, то што будзе доказваць, што мы беларусы?

Я перакананы ў тым, што, калі перастае гучаць мова — перастае існаваць народ! Англійскія ці амерыканскія беларусы прыязджаюць на радзіму сваіх бацькоў або дзядоў, каб паглядзець, адкуль яны родам — і гэта ўсё. Яны ж жывуць на чужой зямлі толькі ў разуменні тых, хто туды заехаў у пошуках хлеба, а для тых, хто там нарадзіўся — гэта ўжо зямля свая, і мова чужая ім свая, і яны ўжо паявлічваюць іншы, а не беларускі народ.

А ўжо нельга аніяк згадзіцца з апошнім сказам Р. Бутайлы, дзе ён гаворыць, што: „Найбольш крыўдна тым, якія па розных прычынах (?!) не падаюць афіцыйна сваёй беларускай нацыянальнасці...“

Усе іншыя нацыянальнасці бадай нават і не падумаюць аб тым — падаваць, ці не падаваць сваёй нацыянальнасці ў адпаведнай рубрыцы, — яны яе падаюць усюды і заўсёды. Гэта датычыць „свядомасці“ адных толькі нас! Шкадую, але не магу гэтага прамаўчаць. Я жыў у Варшаве, не хаваўся з нацыянальнасцю. Хачу, каб мяне называлі аднолькава беларусы і палякі. Палякі называлі мяне Васяй, бо ім і ў голаў не прыходзіць, што трэба кагосьці баяцца і даваць іншае імя. А беларусы выдумоўваюць: то Вацэк, то Весек, каб быццам бы не „выдаваць“ мяне.

Я хачу, каб мяне ўсе называлі так, як полька Геня Савіцкая, — Вася. І то нават на вуліцы, крычачы з другога тратуара.

Трэба мець свядомасць сваёй нацыянальнасці, не ўзвышацца над іншымі і мець чалавечую годнасць. Тады нас будуць шанаваць іншыя.

**Васіль Петручук**




## ВАСІЛЬ БЫКАЎ — ЛАЎРЭАТ ЛЕНІНСКАЙ ПРЭМІІ

Нядаўна Цэнтральны Камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР разгледзелі прапановы Камітэта па Ленінскіх і Дзяржаўных прэміях СССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры пры Савеце Міністраў СССР і прысудзілі Ленінскія прэміі 1986 года.

Як падкрэсліў у друку старшыня вышэй спомненага Камітэта па Ленінскіх прэміях Г. Маркаў, камітэт грунтоўна і крытычна вывучаў і абмяркоўваў работы па ўсіх відах мастацтва, прадстаўленых на атрыманне вышэйшай у краіне прэміі. Прымаліся пад увагу і водгукі шырокай грамадскасці. Пасля дыскусіі ў выніку тайнага галасавання аднадушна было адабрана сем кандыдатур, якім і былі прысуджаны ўзнагароды.

Ленінскай прэміі ўдастоен выдатны беларускі пісьменнік В. Быкаў за аповесць „Знак бяды“, што вяртае да суровых гадоў Вялікай Айчыннай вайны, якой, па сутнасці, прысвечана ўся творчасць празаіка. Глыбока даследуючы народныя характары, аўтар напісаў твор аб мужнасці і стойкасці, аб чалавечай годнасці і такой высокай маралі, якая ніколі не дазволіць ісці супраць сумлення, нават калі выбар стаіць паміж жыццём і смерцю.

### РЭКОРД „ЗАЗЕРСКАГА-85“

У Беларускім навукова-даследчым інстытуце земляробства выведзены новы высокаўраджайны сорт ячменю „зазерскі-85“. Гэта вынік цеснай творчай садружнасці беларускіх селекцыянераў з супрацоўнікамі Інстытута збожжавых культур Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

За гады конкурснага сортавыпрабавання ўраджай ячменю новага сорту склаў 53,3 цэнтнера з гектара. Самы высокі ўраджай быў атрыманы на Верхнядзвінскім дзяржсортаўчастку, што на Віцебшчыне, — 69,6 цэнтнера з гектара.

Добрыя вынікі паказаў сорт „зазерскі-85“ у дзяржаўным выпрабаванні за межамі Беларусі. На Аланецкім сортаўчастку Карэльскай АССР, напрыклад, была атрымана максімальная ўраджайнасць — 81,5 цэнтнера з гектара.

### ПЕРАСЯЛЕННЕ ВОЛАТАЎ

У Азяранскім лясніцтве Прыпяцкага запаведніка заканчваецца будаўніцтва вальера для ўтрымання зуброў з Белавежскай пушчы.

Амаль дзесяць гектараў ляснога масіву, які па стану драўнінна-хмызняковай раслiннасці прыдатны для зуброў, абгароджваецца жэрдкамі.

Сёлета некалькі магутных волатаў пушчы будуць перавезены ў самую глыбінку беларускага Палесся.

Крыху раней жыхарамі лясоў гэтага рэгіёна сталі высакародныя алені, якія пасяліліся ў Акцябрскім раёне.

### СПОРТ

На чэмпіянаце Еўропы па вольнай барацьбе, які закончыўся ў Трэе (Грэцыя) усе дзесяць савецкіх майстроў заваявалі медалі. Сярод мацнейшых атлетаў кантынента і мінчанін Малхаз Мерманішвілі (сярэбраная ўзнагарода).

Поспех спадарожнічаў савецкім барцам на гэтым чэмпіянаце і ў класічнай барацьбе. Яны занялі першае каманднае месца, заваяваўшы пяць залатых медалёў. У саставе зборнай выступаў і спартсмен з Гродна Анатоль Федарэнка. У вазе да 100 кілаграмаў ён заняў пятае месца.

### АЛЯКСЕЙ КУЛАКОЎСКІ

9 красавіка 1986 года памёр вядомы беларускі пісьменнік, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы Аляксей Кулакоўскі. У некралогу, падпісаным савецкімі і партыйнымі дзеячамі, вядомымі беларускімі пісьменнікамі, гаворыцца:

А. Кулакоўскі нарадзіўся 24 снежня 1913 года ў в. Кулакі Салігорскага раёна ў сялянскай сям'і. Пасля сканчэння Рагачоўскай прафтэхшколы працаваў у шматтыражнай і раённых газетах, затым у газеце „Чырвоная змена“, вучыўся ў Мінскім настаўніцкім інстытуце. У 1939 годзе Аляксей Кулакоўскі быў прызваны ў Чырвоную Армію. Ён актыўны ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Камандаваў узводам, штурмовай ротай, быў тройчы паранены.

Першыя апавяданні Аляксей Кулакоўскі надрукаваў у 1945 годзе, а праз два гады выйшла кніга „Сад“. З таго часу беларускі і ўсесаюзны чытач часта сустракаўся з новымі творамі пісьменніка.




## СУТНАСЦЬ ПРАВАКАЦЫІ

У апошні час з трывогай сочым за падзеямі, якія адбываюцца ў Паўднёвым Міжземнамор'і. Там, ля берагоў Лівіі, сабралася армада амерыканскіх караблёў 6-га флоту, у саставе якога амерыканскія авіяносцы з сотнямі самалётаў-знішчальнікаў на борце. Яны і ўчыняюць пірацкі разбой супраць незалежнай і суверэннай арабскай краіны.

У час суровых выпрабаванняў лівійскі народ поўны рашучасці стойка абараняць сваю радзіму. Зазначым, што вельмі доўгі і цяжкі шлях прайшла Лівія да сваёй незалежнасці. Яна вяла барацьбу з рознымі іншаземнымі захопнікамі на працягу многіх стагоддзяў. Доўгі час тут гаспадарылі туркі. Напярэдадні першай сусветнай вайны ім на змену прыйшлі італьянцы, а пасля звяржэння фашысцкага каланіяльнага рэжыму Мусаліні ў Лівіі аб'явіліся англійскія і французскія імперыялісты. Але і яны ў хуткім часе адчулі тут сілу і моц нацыянальна-вызваленчага руху. У выніку іншаземцы пакінулі тэрыторыю гэтай афрыканскай краіны, і Лівія ў снежні 1951 года была абвешчана незалежнай дзяржавай. Уладу ў Трыпалі ўзначаліў кароль Ідрыс І. Гэтага манарха, аднак, мала цікавіў лёс уласнага народа і краіны. Таму ён гандляваў яе тэрыторыяй направа і налева. У 1953 годзе сюды зноў заявіліся былыя каланізатары-англічане, на гэты раз яны стварылі тут некалькі ваенных баз. Праз год з такой жа місіяй у Лівіі апынуліся і ваякі Пентагона.

Новы этап у гісторыі Лівіі пачаўся ў верасні 1969 года, калі група маладых армейскіх афіцэраў здзейсніла ваенны пераварот. Манархія была звергнута і абвешчана Лівійская Арабская Рэспубліка (ЛАР). Ваенны рэжым заявіў аб сваім намеры ісці курсам пазітыўнага нейтралітэту і недалучэння, весці барацьбу з імперыялізмам і каланіялізмам, дабівацца ліквідацыі іншаземнага панавання ў краіне і ўмацавання яе нацыянальнай незалежнасці, здзейсніць прагрэсіўныя сацыяльна-эканамічныя рэформы. У якасці першачарговай задачы быў аб'яўлены больш актыўны ўдзел Лівіі ў міжарабскіх справах і ліквідацыя іншаземных ваенных баз на яе тэрыторыі. Англія была вымушана эвакуіраваць свае ваенныя базы ў сакавіку, а ЗША — у чэрвені 1970 года.

Пасля звяржэння манархіі краінай пачалі кіраваць Савет рэвалюцыйнага камандавання на чале з палкоўнікам М. Кадафі і Савет Міністраў. У сакавіку 1977 года была праведзена рэарганізацыя дзяржаўных устаноў, і ўся ўлада ў краіне перайшла ў рукі народа, які ажыццяўляе кіраўніцтва дзяржавай праз народныя сходы і народныя камітэты, што дзейнічаюць на месцах. Ранейшая назва краіны — ЛАР — была заменена новай — Сацыялістычная Лівійская Арабская Джамахірыя. (Джамахірыя — у перакладзе з арабскай мовы — народаўладдзе, дзяржава мас).

Паўстае пытанне: чаму амерыканскія імперыялісты ўчыняюць пірацкія правакацыі супраць Лівіі?

Адказ просты. Лівія вядзе антыімперыялістычную палітыку, яна актыўна выступае за суверэнітэт і незалежнасць маладых краін, рашуча асуджае ізраільскую экспансію супраць арабскіх народаў на Блізкім Усходзе. Усё гэта і не падабаецца верхаводам Вашынгтона. Вось і пнуцца яны „правучыць“ непаслухмяную Лівію.

В.Р.

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## ШЛЯХ

Вясна. Прыйшла яна з цэлай сваёй радасцю, якой ахапіла і нас.

Хочацца стварыць нешта новае, іншае. Хочацца пісаць аб другой палавіне XX ст. і нейкай будучыні. Гэта звычайная з'ява ў кожным грамадстве.

Аднак гэта для нас немагчымае ў беларускім, беластоцкім запаведніку (глядзі: малюнак Л. Тарасэвіча „Прысутнасць“ 2). З усіх бакоў прычэпліваюць нам нейкія лозунгі, абцяжваюць багажом мінулых спраў, якія цягнуцца не раз ад 19 стагоддзя. Ці ж цяпер, чарговы раз, моладзь мае далей астацца „вечным пакаленнем беларускіх пазітывістаў“ і не зрабіць першага, адважнага кроку ў сучаснасць?

Не абражайцеся на мяне, старэйшае пакаленне „жалезных дзеячоў“! Не рыхтуйце палымяных рэплік і адозваў! Мы ўжо не раз спазналі на сабе гэтую „палымяную беларускасць“. Вакол нас многа ўжо пастаўленых помнікаў.

Нельга, аднак, іх ставіць пры жыцці і сабе і другім. Трэба памятаць, што некаторыя рассыпаюцца пад пільным вокам гісторыі. Навошта гаварыць і пісаць пафасныя словы аб беларускай справе, калі праўда ёсць іншая і ўсе аб гэтым ведаюць.

Паважаны рэдактар Мікалай Раманавіч Гайдук! Сардэчна дзякую за „Шляхам гадоў“. Не раз па начах сніцца мне слаўнае мінулае Беларусі. Гэтыя рыцары, каранацыі, паходы... Усё гэта складае адну з частак гістарычнай спадчыны і нашай сучаснай адукацыі.

Аднак час усё ляціць і ляціць, быццам той коннік з верша Максіма Багдановіча. Таму, каб не страціць сённяшняга часу, трэба сур'ёзна падумаць аб нашай сучаснасці.

Я. Вапа

## ХРОНІКА

29 сакавіка ў Гайнаўцы мы прысутнічалі пры ўваходзе ў дарослае жыццё Аліка Петручука і не менш дарослую гадавіну жыцця (?) Алі Петручук. Спявалі мы на многа лепш, чым салецізант на аглядзе „Беларуская песня-86“ у Беластоку.

Сакавік-красавік. Пастаянна адбываліся рэпетыцыі варшаўскага студэнцкага хору. Існаванне хору пярэчыць тэзісу, стаўленаму нашымі польскімі сябрамі, быццам спяваць „о сухым пыску“, „пожалуй, не стоит“ — як у сваю чаргу даказваюць нашыя рускія сябры.

Нечакана красавік стаў месяцам папулярызацыі студэнцкага руху ў другіх асяроддзях. За гэтымі гучнымі словамі стаяць сустрэчы:

10 красавіка. У варшаўскім клубе БГКТ. Сустрэчы вялі, а як жа ж, самі студэнты і стараліся зрабіць добрае ўражанне, і прыходзіла ім гэта даволі лёгка, тым болей, што большую частку публікі складалі таксама студэнты.

18 красавіка. У Бельскім беларускім ліцэі. Умелую агітработу (не „агід-“!) вялі сябры Лёнік Тарасэвіч і Мікола Раманавіч Гайдук. Рана яшчэ гаварыць аб канчатковых выніках місіі, тым не менш, прыхільнасць была відочная — дзяўчаты аж пішчалі.

19 красавіка. Клуб савецкай культуры ў Варшаве. Яўгену Вапе і Мікалаю Ваўрэнюку не ўдалося падчапіць „Чараўніцы“. Гэтаму ўсяму не памаглі нават кветкі, купленыя для іх.



## Бацькаўшчына[3]

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Звяртаемся да ўсіх, ад малога да старога. Ужо цяпер раскладзіце так свае заняткі, каб у вас атрымаўся вольны час у днях 15-20 ліпеня. Тады якраз адбудзецца славуты ўжо студэнцкі рэйд па роднай зямлі:**

**Прагама нашага сёлетняга падарожжа такая:**

**15.07 — удзельнікі, хто чым, дабіраюцца ў Гайнаўку і пад вечар спатыкаюцца на панадворку Беларускага ліцэя.**

**16.07 — раніцай далучаюцца тыя, якія не змаглі прыехаць вечарам папярэдняга дня. Чакаем да 11-ай гадзіны ў ліцэі, потым ідзем у Нараўку, дзе і заначуем.**

**17.07 — у гэты дзень пяройдзем з Нараўкі ў Семяноўку.**

**18.07 — дзень адпачынку: вельмі кароткая траса з Семяноўкі ў Луку.**

**19.07 — з Лукі ідзем у Міхалова.**

**20.07 — апошні дзень рэйду праводзім у слаўтым сваёй гісторыяй ды гасціннасцю Гарадку.**

**Апрача супольнага адпачынку і ўцехаў, гарантуем даклады па гісторыі роднага.**

**Прачытай! Запамятай! Перадай!**

У Беластоцкім запаведніку




— А за рэчкай, у Боўтрыках, папівалі мы самагонку...

### ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ!

(Тлумачальны слоўнік найбольш папулярных іншамоўных зваротаў у моўнай практыцы беларускіх студэнтаў у Польшчы).

У гутарковай мове беларускіх студэнтаў выступае не мала запазычанняў з іншых моў, найбольш з польскай. Некаторыя словы, а ўжо асабліва звароты выраслі да нейкіх стэрэатыпаў, з вельмі універсальным значэннем. А некаторыя з іх мы пастараемся бліжэй растлумачыць.

1. „А шкода“ — запазычанае з польскай мовы і ў залежнасці ад кантэксту абазначае:

а) жаль, вялікі жаль пасля патрачанага кахання;

б) радасць з тае ж самае прычыны;

в) слоўнае абурэнне на чыесьці словы.

Прыклады:

— Я таксама беларус, толькі гаварыць не ўмею...

— А шкода...

або

— Ведаеш, я ўчора не магла з табой пайсці, бо...

— А шкода! Сёння я з табой не магу (ці не хачу).

2. „О, курчэ, то незлы гіпс!“ — запазычанне з польскай мовы і абазначае захапленне нейкім выпадковым здарэннем, або вычытанай звесткай.

Прыклады:

а) Седзячы ў інтэрнацкім пакоі, студэнт, самотны, са зблытанымі пасля ўчарашняй „прываткі“ думкамі, рэагуе на неспадзяваны, але як жа прыемны сэрцу... ўваход дзяўчыны:

— О, курчэ... ведаеш, я і думаў пра цябе. — Тут яна без лішніх слоў сядае побач і далікатна распускае сабе валасы. (Ці ж не раскошна? — ад аўтара).

б) Толькі што прачытаўшы звестку ў беларускім друку, якая кідае новае, пераважна яскравае, святло на нейкую чорную справу, студэнт выбухае:

„О, курчэ, то незлы гіпс!“ — і адначасна паказвае другім пальцам правай рукі ўгору. А затым дадае: „Во, вось і яно! О, курчэ...“

3. „Лэбскі фацэт“ — перанятае з польскай мовы і абазначае:

а) чалавека з моцнай галавой... у выпіўцы алкагольных напіткаў.

б) глыбокага беларускага патрыёта, які, напрыклад, сцвярджае: „І я калісьці чытаў „Ніву“!

в) студэнта, які станоўчым „не“ адказвае на прапановы ці жэсты ўсялякіх катэгорый дзяўчат лёгкіх паводзін.

Ю. Л.

ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

Старонку падрыхтавалі: Юрка Ляшчынскі, Мікола Ваўранюк, Валянцін Сельвясюк, Лёнік Тарасэвіч, Яўген Вапа.

# НАСТАЎНІКІ РОДНАЙ МОВЫ



ЭЛЕАНОРА БАРАН

Наша машына затрымалася каля школы ў Вульцы Нурэцкай (гміна Нурэц). Да яе набліжалася жанчына, у якой запыталіся мы пра настаўніцу беларускай мовы.

— Вы добра трапілі, гэта я, — адказала яна і запрасіла нас у школу.

Будынак школы стары, нязручны, абсалютна не прыстасаваны да сённяшніх патрэб. Ну, але што ж, гэта асобная справа. Нас цікавіла навучанне роднай мовы і аб гэтым мы хацелі гаварыць з Элеанорай Баран.

— У нашай школе ўсе дзеці вывучаюць беларускую мову. Ахвотна спяваюць беларускія песні, дэкламуюць вершы, удзельнічаюць у пастаноўках. Шкада, што не было як прыехаць з нашымі найлепшымі выканаўцамі на дэкламатарскі конкурс, які быў арганізаваны Галоўным праўленнем БГКТ і Куратарыяй асветы і выхавання, — інфармавала нас настаўніца, а пасля яна стала расказваць, як школьнікі рыхтавалі выступленне на беларускай мове, якое мела адбыцца на ёлцы. Найбольш працы і эмоцый было пры падрыхтоўцы п'есы М. Кудзелькі „Боты". Успрынята яна была бацькамі вельмі добра. Самадзейным артыстам горача апладзіравалі гледачы. Была гэта іх падзяка, і ўсе былі задаволены: і школьнікі, і бацькі, і зразумела, настаўнікі.

Настаўніцкі калектыў у Вульцы Нурэцкай згодны. Кіруе ім дырэктар школы Веслаў Вішаваты. У школе пануе спрыяльны клімат для навучання беларускай мовы. З бацькамі наладжана належнае супрацоўніцтва. Горш з пісьманосцам, які прыносіць „Ніву" ў школу нерэгулярна, а часамі нават губіць некаторыя нумары.

Элеанора Баран пастаралася, каб стварыць у школе куточак народнай творчасці. Ёсць тут ручнікі і макаткі з мясцовай народнай вышыўкай, настольнікі, гліняныя збаны і іншыя прадметы нацыянальнай культуры. Усё гэта настаўніца выкарыстоўвае, калі спасылаецца на матэрыяльную культуру беларускага народа. У школу на сустрэчу з вучнямі запрашала яна журналіста „Нівы" Віктара Рудчыка, які паходзіць з Вулькі Нурэцкай. Плануе запрасіць таксама рэдактара „Зоркі" і нашых літаратараў-„белавежцаў"

Элеанора Баран навучае дзяцей і польскай мове, якая для яе з'яўляецца роднай, бо па нацыянальнасці яна полька. Беларускую ж мову палюбіла ў Гайнаўскім беларускім ліцэі, які закончыла ў 1978 годзе. Гэта выкладчык беларускай мовы Аляксандр Іванюк прывіў любоў да яе, раскрыў яе прыгажосць і багацце. І да сёння сардэчна ўспамінае яна свайго выхавацеля, высока цэніць яго як педагога. Элеанора, тады яшчэ Ільчук, заахвоціла паступіць у беларускі ліцэй і сваю родную сястру Тэрэсу Ільчук, якая цяпер з'яўляецца студэнткай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

Элеанора Баран жыве цяпер у Нурцы са сваім мужам і адзінаццацімесячнай дачкой Эміліяй. Да працы ў школу ў Вульцы Нурэцкай даязджае штодзень аўтобусам.

Міхась Хмялеўскі
Фота аўтара

**У БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ Ў БЕЛЬСКУ**

## Будзе чатыры першыя класы

Вельмі многа моладзі з усяе Беласточчыны наплыло ў бягучым годзе ў Беларускі ліцэй у Бельску. 130 выпускнікоў пачатковых школ хоча вучыцца ў гэтай слаўнай школе.

Школа дагэтуль мела толькі тры першыя класы для дзевяноста асоб. З вялікай увагай падыйшлі да гэтай справы педагагічны савет і дырэкцыя ліцэя. Звярнуліся яны да Беластоцкай школьнай куратарыі з абгрунтаванай просьбай дазволіць стварыць чацверты першы клас у школьным годзе 1986/87. Куратарыя аднеслася станоўча да прапановы і **ад новага школьнага года Бельскі беларускі ліцэй будзе мець чатыры першыя класы.**

Гэтая вестка цешыць увесь ліцэй, цешыць і нас, і бацькоў, і будучых вучняў, якім жадаем стаць у будучай вучобе алімпійцамі, паспяхова закончыць ліцэй і паступіць у вышэйшыя школы, павялічыць рады беларускай інтэлігенцыі розных напрамкаў, але аб'яднаных супольнай ідэяй, якая называецца „любоўю да роднай беларускай старонкі".

Некалькі слоў аб кандыдатах — будучых ліцэістах. Амаль 2/3 — гэта вясковыя дзеці, што асабліва радуе. 35 прац. усіх кандыдатаў — хлопцы. Гэта высокі працэнт мужчын, як на агульнаадукацыйны ліцэй.

Адкуль будучыя ліцэісты Беларускага ліцэя ў Бельску?

З бельскай „тройкі" — 39, школы № 4 у Бельску (даўнейшая гмінная) — 12, школы № 2 у Бельску — 12, Дубяжына — 3, Краснага Сяла — 2, Трасцянкі — 1, Кнарыдаў — 2, Клейнікаў — 6, Маліннікаў — 5, Орлі — 6, Храбалоў — 4, Кляшчэляў — 4, Махнатага — 4, Нурца — 4, Нурца-станцыі — 1, Чаромхі — 4, Дашоў — 1, Банькаў — 1, Боцькаў — 1, Рагачоў — 1, Андрыянкаў — 1, Гародчына — 1, Аўгустова — 1, Кальніцы — 1, Пашкоўшчыны — 3, Ляўкова Старога — 1, Мілейчыцаў — 2.

І кандыдаты ў ліцэй маюць высокія ацэнкі з паасобных прадметаў. Сярод іх многа лаўрэатаў і ўдзельнікаў школьных конкурсаў, аб чым пастараемся напісаць пасля заканчэння ўсіх конкурсаў.

Будучым ліцэістам-тарашкевічаўцам жадаем добрай дарогі.

(вл)

Мал. У. Петрука




Новы гмах Беларускай пачатковай школы ў Бельску Падляшскім.

**У БЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ БГКТ**

## ТВОРЧАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

Пленум Бельскага аддзела БГКТ, які адбыўся 20 красавіка г.г., меў багатую, канструктыўную праграму. Адкрыў яго старшыня аддзела Васіль Ляшчынскі. Затым значная група бэгэкатоўскага актыву была ўзнагароджана: В. Ляшчынскі — сярэбраным знакам „Заслужаны для Беласточчыны", а Уладзімір Раеўскі, Тамара Русачык, Вера Рышчук, Андрэй Маскалевіч, Мар'я Манаховіч, Міраслаў Астапчук, Андрэй Гаўрылюк і іншыя — Ганаровай граматай БГКТ. З дакладам „30 год БГКТ і „Нівы" выступіў член Прэзідыума ГП БГКТ Сяргей Лукашук. Адзначыў ён, што Бельшчына ўсё мінулае 30-годдзе ўносіла вялікі ўклад у культурнае жыццё беларусаў у Польшчы. Тут адразу пасля стварэння нашай арганізацыі людзі масава ўступалі ў яе, хутка паўстала густая сетка гурткоў БГКТ, пачалі ўзнікаць аматарскія тэатральныя і харавыя калектывы. Бельскі агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання і беларускія класы Бельскага педагагічнага ліцэя — гэта выдатная кузня кадраў для беларускай асветы і грамадска-культурнай дзейнасці БГКТ. На Бельшчыне заўсёды на належным узроўні было пастаўлена навучанне беларускай мовы ў школах, а дарослыя ахвотна ўдзельнічаюць у розных формах культурна-асветнай дзейнасці БГКТ. Вялікія заслугі ў папулярызацыі беларускай песні і слова не толькі на Беласточчыне, але і ў іншых рэгіёнах Польшчы — у калектыва „Васілёчкі". Трыо з Бельскага дома культуры, якое заняло ў конкурсе „Беларуская песня-86" першае месца сярод малых калектываў у катэгорыі сучаснай песні, пераможна прайшло ўсе элімінацыі і прыме ўдзел у сёлетнім Агульнапольскім фестывалі савецкай песні ў Зялёнай Гуры.

Затым В. Ляшчынскі прадставіў план святкавання 30-годдзя БГКТ і „Нівы" на Бельшчыне. У ім, між іншым, ёсць Беларускі дзень падчас штогадовых Дзён Бельска-Падляшскага, вечар беларускай песні і паэзіі ў Бельскім доме культуры з удзелам „Васілёчкаў", беластоцкіх „Каласкоў" і хору з Гайнаўкі, а таксама конкурс на найпрыгажэйшыя каравaі (вясельны і юраўскі) — для дарослых, а для школьнікаў — два конкурсы: „Мая мясцовасць" (малюнак) і „Нашы легенды і паданні" (запіс пачутай у сваёй мясцовасці легенды, можа быць і на мясцовай гаворцы) і іншыя імпрэзы.

Намеснік начальніка горада Міхал Матус у сваім выступленні выказаў высокую ацэнку грамадскаму заангажаванню бельскага беларускага асяроддзя, яго дасягненням у асветнай і культурнай дзейнасці, высокаму ўзроўню навучання і выхавання ў беларускім ліцэі і пачатковай школе, слаўным „Васілёчкам". У чэрвені на спецыяльнай сесіі Гарадской рады нарадовай будзе абмяркоўвацца план развіцця культуры ў Бельску ў гадах 1986-90. У ім важнае месца будзе адведзена БГКТ.

— З кожным годам прыбывае моладзі, якая хоча вучыцца ў нашай школе, — падкрэсліў дырэктар Бельскага беларускага ліцэя Аляксей Карпюк. — У Бельскай беларускай пачатковай школе цяпер поўны камплект вучняў у чатырох першых класах, але ёсць яшчэ некалькі дзесяткаў ахвотных — таму патрэбны пяты першы клас. Наш маральны абавязак — даць магчымасць вучыцца роднай мове кожнаму беларускаму дзіцяці.

Вядомы грамадскі дзеяч Уладзімір Раеўскі выказаў жаданне бельскага беларускага ася-

(Працяг на стар 6)



Удзельнікі конкурсу былі ўзнагароджаны дыпломамі. Дырэктар Акруговага музея ў Беластоку Я. Гасцілавіч уручае дыплом Н. Дудзік з Гарадка.



Я. Стульгіс каля сваіх работ.

# УМЕЛЫЯ РУКІ

„Цэпэлія", Аддзел культуры і мастацтва Ваяводскай управы, Акруговы музей, Ваяводскае праўленне Лігі жанчын, Кааператыў вытворцаў рукадзелля „Народнае мастацтва" і Ваяводскае праўленне Сельскагаспадарчых гурткоў і арганізацый у Беластоку арганізавалі конкурс „Вышыўка і карункі".

На конкурс было прыслана больш за 100 работ. Да пасляконкурснай выстаўкі ў музеі ў Тыкацінe камісія выбрала 76 работ. Работы класіфікаваліся ў чатырох катэгорыях: традыцыйная вышыўка, традыцыйныя карункі і карункі ў сучаснай адаптацыі. I месца ў традыцыйнай вышыўцы занялі работы Любы Плашчук з Беластока. II — Анны Зайкоўскай, III — Мар'і Тарасэвіч (Капляны). Вылучаныя працы Надзеі Дудзік з Гарадка. Вышыўка сучасная: I месца — Яніна Стульгіс (Нараўка), II — Галена Рымша (Беласток), III — Галена Яканюк (Дабівадзічы). У традыцыйных карунках: I — Галена Чыкер (Капляны), II — Галіна Якубоўская (Скальмова), III — Валянціна Бабулевіч (Капляны). Адаптацыя карунак: I — Вацлава Бачэўская (Тыкоцін), II — Ірына Паўлючук (Гарадок), Аліцыя Кучынская (Беласток). Вылучана работа Раісы Дылько (Гарадок).

Выстаўка карыстаецца вялікім поспехам і таму яе прадоўжылі да канца мая.

**Міра Лукша**
Фота С. Грыняўіцкага

(Працяг са стар. 5)

## ТВОРЧАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

роддзя, каб больш было беларускамоўных перадач па Беластоцкаму радыё.

— Людзі патрабуюць, — адзначыў ён, — каб беларускія перадачы былі даўжэйшыя і перадаваліся сама меней два разы ў тыдзень. Гэтыя перадачы карыстаюцца вялікай папулярнасцю, людзі любяць іх.

Намеснік галоўнага рэдактара „Нівы" Мікалай Гайдук расказаў аб рабоце і планах рэдакцыі і звярнуўся з заклікам да ўсіх членаў і прыхільнікаў БГКТ на Бельшчыне больш актыўна распаўсюджваць наш часопіс, здабываць „Ніве" новых чытачоў і карэспандэнтаў.

Шматгадовая заслужаная настаўніца беларускай мовы Мар'я Манаховіч у сваім выступленні звярнула ўвагу на неэфектыўнае выкарыстанне вялікай школы ў вёсцы Аўгустова.

Прысутныя цікавіліся справамі Беларускага музея. Актывіст Уладзімір Гліва паведаміў пра двух народных умельцаў — каваля і цесляра — з Дзяніскаў і Плёскаў, якія ахвотна выканаюць патрэбныя музейныя абсталяванні.

У заканчэнні пасяджэння сакратар ГП БГКТ В. Луба адказваў на пытанні.

Незвычайную неспадзяванку зрабіў тэатр жывога слова „Парнас", які дзейнічае пры Бельскім аддзеле БГКТ. Ён выступіў з дзвюма пастаноўкамі: „Роднае" па творах літаратараў „Белавежы" і сатырычнымі сцэнкамі „Парнас". Усіх захапіў высокі выканаўчы ўзровень, цікавы змест і добрая пастаноўка. Узначальвае „Парнас" кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ Янка Мордань, а 10-асабовы калектыў складаюць вучні розных сярэдніх школ Бельска, а таксама моладзь, якая ўжо працуе. І так Бельску прыбыў яшчэ адзін цікавы і з абяцаючымі перспектывамі калектыў!

Пасяджэнне Бельскага аддзела БГКТ было сапраўды будуючае, творчае. **Ігнат Снарскі**




# НА ШЛЯХУ Ў ІРАН

Іван Бартнічук быў перакананы, што рыхтуюць іх да барацьбы з нямецкімі захопнікамі. Таксама меркавалі і яго сябры — салдаты з 5 пяхотнай дывізіі.

А вораг падыходзіў ужо пад Маскву. Марознай восенню 1941 года іншло крываве змаганне за сталіцу Краіны Саветаў. Атрады байцоў, якія прымалі ўдзел ва ўрачыстым парадзе ў гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі, проста з Чырвонай Плошчы ішлі на недалёкі фронт.

У Берліне нарыхтавалі ўжо цэлыя вагоны спецыяльных жалезных крыжоў для ўзнагароды захопнікаў Масквы. Бачыў я гэтыя крыжы. Запаўняюць яны вялізную вітрыну ў Цэнтральным музеі Узброеных Сіл Савецкага Саюза і Ваенна-марскога Флоту, які знаходзіцца ў Маскве. Свет з затоеным дыханнем наглядаў за развіццём падзей на савецка-германскім фронце. У кастрычніку 1941 года гітлераўцы захапілі Вязьму, дзе першапачаткова фарміравалася Польская Армія. Да Масквы аставалася ледзь 200 км.

— Тады нас перакінулі з Вязьмы, — успамінае Бартнічук, — на паўднёвы Урал, у горад Тацішчава, што каля Саратава, на Волзе...

Каб праверыць гэты ўспамін старога ветэрана, заглядаю я ў тоўстую кніжку пад загалоўкам *„Польскі ўзброены пачын у II сусветнай вайне"*, якая з'яўляецца дакументальнай апрацоўкай Вайсковага гістарычнага інстытута імя Ванды Васілеўскай. І будзе гэта асноўная (хаця не адзіная) крыніца, на якую давядзецца мне спасылацца, сочачы за ваеннымі сцежкамі ветэранаў, лёс якіх завёў пад камандаванне генерала Уладзіслава Андэрса.

Аказваецца, што Бартнічук не памыляецца, памяць яго не падвяла. Праўда, штаб Польскай Арміі знаходзіўся ў Бузулуку. Гэта на рэчцы Самара, на ўсход ад Куйбышава, які раней тамама называўся Самарай. Але 5 пяхотная дывізія, у саставе якой давялося служыць Бартнічуку, знаходзілася ў Тацішчаве. Гэта дакладна 48 км па шасейнай дарозе з Саратава ў паўночна-заходнім напрамку.

У кнізе чытаем: *„Камандзірам дывізіі* (значыць — гэтай 5) *быў назначаны генерал Мечыслаў Барута-Спяховіч, а начальнікам штаба — тады яшчэ падпалкоўнік Зыгмунт Берлінг..."*

Тут я зноў задумаўся. Папярэдне Бартнічук гаварыў мне, што камандзірам 5 Крэсавай дывізіі пяхоты быў палкоўнік Нікадэм Сулік.

— Так, гэта праўда, — адзначае мілейчыцкі ветэран. — Найперш, сапраўды, камандаваў намі гэты Барута-Спяховіч. Яшчэ сёння памятаю, — працягвае ў задуменні Бартнічук, — як заахвочваў ён салдат да ўсялякай вучобы, каб хутчэй трапіць на фронт і адпомсціць гітлераўцам за крыўды сваёй айчыны і сваёй радні. „Хлопцы, — гаварыў, — больш поту ў часе вучобы — гэта менш крыві ў баі!" Але гэтага генерала пасля ад нас недзе забралі, а камандзірам 5 дывізіі назначылі менавіта Нікадэма Суліка.

— А падпалкоўнік Зыгмунт Берлінг, — запытаў я ў Бартнічука, — ці гэта той самы Зыгмунт Берлінг, які пазней камандаваў Касцюшкоўскай дывізіяй?

На жаль, Бартнічук не змог мне гэтага вытлумачыць, бо тут трэба ведаць розныя закуткі вялікай палітычнай гульні, якую тады вялі некаторыя камандзіры новаарганізаванай Польскай Арміі ў СССР, а перш за ўсё генерал Андэрс і яго бліжэйшыя сябры. Быў ён прафесіянальным вайскоўцам. Да 1917 года служыў у царскай арміі, а калі ў агні Кастрычніцкай рэвалюцыі не стала цара, Ул. Андэрс перайшоў на службу ў польскім корпусе генерала Юзэфа Доўбар-Мусніцкага, які ставіўся варожа да рэвалюцыйных перамен у Расіі. Напярэдадні II сусветнай вайны Ул. Андэрс камандаваў Навагрудскай брыгадай кавалерыі. Вераснёўскую кампанію закончыў у чыне палкоўніка. Галоўнакамандуючы Польскімі Узброенымі Сіламі, генерал Уладзіслаў Сікорскі, пасля падпісання дагавору з урадам Савецкага Саюза, павысіў Ул. Андэрса да звання генерала.

*„Ані Андэрс, ані яго бліжэйшыя супрацоўнікі не скрывалі сваёй варожасці да СССР, што*

# КРОНІКА

5.04. У Дубінах адбыліся раённыя элімінацыі школьнага конкурсу „Беларуская песня-86".

8.04. Адбыўся сход гуртка БГКТ на мэблевым прадпрыемстве ў Варанянах. Новым членам БГКТ былі ўручаны членскія білеты.

10.04. Члены БГКТ у Беластоку сустрэліся з навуковым працаўніком Інстытута Гісторыі Акадэміі Навук БССР дац. Міколам Івановым, які прачытаў даклад на тэму фарміравання беларускай нацыянальнай свядомасці ў міжваенны перыяд.

— Прэзідыум праўлення аддзела БГКТ у Дуброве Беластоцкай прыняў план правядзення беларускага фэсту ў Хільмонах.

11.04. На пасяджэнні прэзідыума праўлення Гайнаўскага гарадскога аддзела БГКТ была адобрана справаздача аб дзейнасці ў I квартале г.г. і прыняты план арганізацыі гарадскога беларускага фэсту.

17.04. Секцыя культуры ГП БГКТ прыняла праграму Свята беларускай культуры, якое адбудзецца ў чэрвені г.г. у Беластоку.

24.04. Адбыўся ў гонар 30-годдзя БГКТ і „Нівы" юбілейны пленум праўлення Гайнаўскага гарадскога аддзела БГКТ.

26.04. У Бельску праводзіліся раённыя элімінацыі школьнага конкурсу „Беларуская песня-86".

27.04. У Паўночным Востраве адбыўся ўрачысты сход гуртка, прысвечаны 30-годдзю БГКТ і „Нівы". Члены гуртка перадалі 1750 злотых на пабудову музея ў Гайнаўцы.

28.04. Секцыя асветы ГП БГКТ на пасяджэнні ў Бельску займалася станам навучання беларускай мовы ў пачатковых школах.

**В. Луба**

## У ДНІ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

З 15 па 17 мая г.г. у Гайнаўцы праходзіў фестываль царкоўнай музыкі, у якім прыняло ўдзел 12 калектываў, у іх ліку Маладзёжны калектыў з Хельсінкі, а таксама Настаўніцкі хор з Лодзі, Шахцёрскі хор з Вроцлава і іншыя.

18 мая адбудуцца два ўрачыстыя канцэрты ўдзельнікаў фестывалю: I у Гайнаўскім доме культуры „Гурнік" а 13 гадз., II у Беластоцкай філармоніі а 18 гадз.

Усе інфармацыі: Гайнаўка, тэлефон 20-89 і 32-03.

## НЯХАЙ ЛЕПШ РАСЦЕ ЛЕС!

Дарагая рэдакцыя, я прачытаў у тыднёвіку „Ніва" артыкул Веры Леўчук „Можа лес вырасце". Падумаў — напішу некалькі слоў на гэтую тэму.

У мінулым годзе мая жонка ў час сенакосаў мела выпадак — была няздольнай да працы ўсё лета, ад лекарскай камісіі атрымала пасведчанне аб 10-працэнтнай страце здароўя. Увосень я напісаў паданне ў гмінную ўправу, каб далі палёгку, хоць на адну рату падатку. Замест палёгкі, на другі дзень пасля атрымання мною адмоўнага рашэння гміны, прыйшоў пакамornік. Не памагло тлумачэнне, што я маю права на працягу 14 дзён адклікацца да ваяводы. Я мусіў заплаціць за яго прыезд.

Пайшоў я з гэтым да начальніка і сакратара партыі ў гміне Дубічы Царкоўныя. Без выніку. Адказалі: „Такія правілы" — і г.д.

Другая справа. Я ў мінулым годзе перакласіфікаваў кавалак зямлі з V на VI клас. Заплаціў геадэту. У гэтым годзе, перад выпісаннем платнічага наказу, пайшоў у гміну, каб зрабілі яны новае налічэнне падатку, бо ёсць жа рашэнне. Але наказ платы атрымаў нязменны. Пайшоў зноў у гміну, а ў іх ужо ўсё пагінула. І цяпер застаецца пытанне: чаму на гаспадара можна насылаць пакаморніка, хоць няма патрэбы? Чаму на адміністрацыю няма ўправы? Навошта нам без патрэбы хадзіць па ўстановах? Ад чаго начальнікі гміны і сакратар партыі?

Не пішу вам, каб выціснуць нейкія высненні, а толькі так, каб паказаць, што такая работа нашых урАднікаў адбірае людзям ахвоту да працы і падкопвае аўтарытэт дзяржавы. Да каго ж мець прэтэнзіі? То ж не робіць нам гэтага вораг, а нашы сыны і дочкі. У мяне два сыны, але я не хачу, каб які з іх заставаўся на гаспадарцы і так, як я, без сэнсу, валачыўся па ўстановах. Няхай лепш расце пасля нас лес!

Такіх спраў ёсць тысячы і атрўчваюць яны жыццё не аднаму гаспадару.

**Аляксей Андраюк, Істок.**

## ЧАЛАВЕК ЁСЦЬ ЧАЛАВЕК

Было гэта яшчэ да першай вайны, за маладосці маёй матулі. У той вёсцы, адкуль матуля мая, жылі багатыя людзі, у якіх быў адзін сын. Яны трымалі ў сябе парабка і дзеўку. Аднаго разу прыйшла да іх служыць вельмі бедная, але працавітая дзяўчына, паслухмяная такая. Спадабалася яна старым і надумалі яны ажаніць з ёю свайго адзінага сына. А ён у той час ужо хадзіў да аднае, Аксеняй звалася. Моцна кахаў яе і даў прысягу ёй, што з іншай не ажэніцца. Бацькі, аднак, і чуць пра тое не хацелі, казалі, што толькі гэтая працавітая і добрая дзяўчына будзе іхняй нявесткаю. Хутка падалі яны на запаведзі і ўзяліся за рыхтунак вяселля, наспрашалі сваякоў, закалолі вялізнага кормніка, зарэзалі цяля, нарабілі каўбасаў. Словам — рабілі вяселле на ўсю ваколіцу.

— Не сумна табе, Аксеня? — пыталі сяброўкі. — Твой жа жэніцца з другою...

— Няхай, — адказвала Аксеня, як бы ўсміхаючыся.

Прыйшоў час вяселля і ўсё адбывалася, як і трэба: госцей наз'язджалася, шлюб у царкве быў харошы, сталы прыгожа застаўленыя ўсякім ежывам ды пітвом, здавалася, ажно ўгіналіся яны ад усякага дабра. Пасадзілі ўсе за сталы і не паспелі выпіць першае чаркі, калі ўстаў са свайго месца малады і паклікаў да сябе бацькоў. Людзі здзівіліся: што гэта будзе?! Пэўна, дзякаваць і кланяцца... — Падабаецца вам нявестка? — пытае ён у маці з бацькам. — Падабаецца, — адказваюць яны. — І вы хацелі яе за нявестку? — пытаецца ён далей. — А як жа, хацелі, — кажуць яны. — Ну калі хацелі, дык і маеце яе, — кажа ім ён. І далей кажа: — А яна мне не жонка, — і сказаўшы тое, вылез з-за стала ды пайшоў сабе прэч.

Бацька паглядзеў на ўсіх і на нявестку, і сказаў:

— Піце людзі, ешце і гуляйце. А ён няхай сабе ідзе, калі ўжо так надумаў: яна будзе ў нас нявесткай да самае смерці, і мы ёй усенька запішам!

Малады з Аксеняй рушылі парабкаваць, наняўшыся да нейкага пана.

Усё здарылася так, як бацька сказаў. Але настала тая першая вайна, людзі паехалі ў „бежанства". І нявестка, будучы далёка ад дому, згубіла недзе той вопіс на яе ўсёй гаспадаркі. Калі вярнулася назад, на гэтую сваю бацькаўшчыну, дык аказалася, што на запісанай ёй гаспадарцы ўжо рассеўся сын нябожчыкаў і са сваёй тою Аксеняй. Чужыя людзі за яе таксама не заступіліся, і яны прагналі яе...

Паслухала я гэту гісторыю і падумала сабе: а ці і цяпер не бывае так, што бацькі хочуць жаніць сына па-свойму, лічачы, што толькі яны разумеюць, як яму павінна быць добра ў жыцці? Толькі цяпер дзеці больш развітыя і больш незалежныя часцей робяць так, як яны бачаць свой лёс. Нікога нельга ашчаслівіліваць сілком, гвалтам! Можна сказаць і так: дурань жыве па-дурному, а разумны па-разумнаму, і ў гэтым таксама няма бяды. Кожны жыве, як умее, і кожнага трэба ўшанаваць, таксама і дурноту дурнога, бо гэта людское, чалавек ёсць чалавек і не больш, і ад нікога не вымагайма больш, чымсці ён сам здольны ўчыніць. Вось так.

**Аўрора**

---

*засведчылі ў апублікаваных успамінах".*

Гэтак пішуць аўтары успомненай апрацоўкі і яшчэ дабаўляюць, што начальнік разведвальнага ўпраўлення, палкоўнік Міткевіч, а таксама і генерал Клімецкі раілі Сікорскаму, каб ён не даручаў Андэрсу каманды над Польскай Арміяй у Савецкім Саюзе. У кніжцы *„З генералам Сікорскім на чужыне"*, што надрукавана ў Парыжы ў 1968 годзе, Міткевіч піша (стар. 169), што накіраваў галоўнакамандуючаму пісьмовы пратэст супраць таго *„... каб Андэрс аставаўся ў Расіі і браў каманду над войскам, якое складаецца з яго ўчарашніх... сяброў, з падобнымі антысавецкімі адносінамі...*

Каб дапоўніць гэты малюнак галоўнакамандуючага Польскай Арміяй у СССР, дык варта яшчэ ведаць, што Андэрс належаў да нешматлікіх польскіх палкаводцаў, якія не верылі ў перамогу Савецкага Саюза і на аснове гэтых меркаванняў рабілі вывад, што не варта кіраваць польскіх салдат на ўсходні фронт. Хай там лепш два варожыя волаты, значыць, Савецкі Саюз і гітлераўская Германія, патрацяць столькі крыві, што на далейшае змаганне не хопіць ужо ім сіл, а тады Польская Армія, разам з заходнімі альянтамі, прыступіць да рашучага ўдару і збярэ пажаданы плён...

Аднак міжурадавы дагавор, які 30 ліпеня 1941 года быў падпісаны ў Маскве, прадбачваў у першым пункце, што *„... Польская Армія будзе арганізавана чым магчыма як найхутчэй на тэрыторыі Савецкага Саюза як састаўная частка Польскіх Узброеных Сіл і накіравана да супольнай барацьбы з немцамі..."*

Першай армейскай адзінкай, здольнай да баявых дзеянняў, аказалася менавіта 5 пяхотная дывізія. Яе тадышні камандзір, генерал Мечыслаў Барута-Спяховіч і начальнік штаба, падпалкоўнік Зыгмунт Берлінг, неадназова заяўлялі аб сваёй гатоўнасці ўключыцца ў цяжкія загараджальныя бai, якія ад Ленінграда — на поўначы аж па Растоў на Доне — на поўдні вяла Чырвоная Армія.

Бартнічук успамінае:

— Фронт дагнаў нас амаль у гэтым Тацішчаве. Памятаю, што сталі мы па-суседску з гарнізонам Чырвонай Арміі. Салдаты з нашай 5 дывізіі, пераважна „крэсавякі", ваволі добра ведалі рускую мову. Хутка завязлося ў нас сяброўства. Нават наперакор загадам нашага камандавання. Салдату з салдатам заўжды ёсць аб чым пагутарыць. А тут, памятаю, недзе так пад позняю восень 1941 года, бо ўжо сталі вялікія маразы, над нашым гарадком значэўку паявіліся ўжо і нямецкія самалёты. Паднялі нас па баявой трывозе. У нас былі тады рускія супрацьтанкавыя хуткастрэльныя гарматы. Як узнялі мы страляніну, дык памятаю, што неба засвяцілася ад трасіруючых куль. Варожыя бамбардзіроўшчыкі вымушаны былі скінуць свой смерцяносны груз дзе папала, найчасцей у пустым стэпе, і ратаваца ўцёкамі. А мы сяклі ім наўздагон, а мы сяклі... Проста завязлося спаборніцтва між намі і нашымі чырвонаармейскімі суседзямі...

У пачатку снежня 1941 года ў Тацішчава з'ехаліся высокія прадстаўнікі польскага ўрада з яго прэм'ер-міністрам Сікорскім на чале. Быў наладжаны ўрачысты парад 5 дывізіі пяхоты. Камандаванне хацела пераканаць асабіста ў гатоўнасці гэтай баявой адзінкі да франтавых дзеянняў. Захаваліся здымкі з гэтага параду. На ганаровай трыбуне: генерал Уладзіслаў Сікорскі, намеснік міністра замежных спраў СССР — Андрэй Вышынскі, пасол Польскай Рэчыпаспалітай у СССР — прафесар Станіслаў Кот, а побач трыбуны стаіць генерал Уладзіслаў Андэрс. Усе вельмі цёпла апрануты. Відаць, мароз не на жарты шчыпаў за нос і вушы, бо і салдаты закрылі твары шапкамі-будзёнаўкамі. Генерал Сікорскі трымае ў руках нейкую паперу. Значыць, выступае. Гэты малюнак добра таксама захаваўся і ва ўспамінах Івана Бартнічука.

— Салдаты! — паўтарае мне Бартнічук, — неўзабаве ўжо мы вернемся ў Польшчу, але ў іншую Польшчу, чымсці была яна да 1939 года, у Польшчу болей справядлівую і дэмакратычную!

І салдаты верылі Сікорскаму. Аднак давяліся ісці ім зусім у іншым напрамку. Гэтага дамогся генерал Андэрс. Між 15 студзеня і 25 лютага 1942 года Польская Армія з раёна Саратава-Куйбышава была перамешчана аж ва Узбекістан. У палавіне

**(Працяг на стар. 8)**

## ХРЫШЧОНЫ ЎДАЎСЯ Ў ТАТУЛЬКУ

Шмат каму вядома, што ў нашай ваколіцы будуюць вадасховішча. Каля нашых Рыбакоў узводзяць плаціну. Пясок на яе возяць з Рудніцкага палетка. Каля нашай вёскі праязджаюць сотні разоў у дзень усялякія грузавыя машыны: „мазы", „кразы" і „камазы". Блізка ад нас прыстань будуюць, і туды матэрыял давозяць і то ўжо праз нашу вуліцу. Ад гэтых цяжкіх машынаў з вялізным ґрузам не толькі дрыжаць вокны і сцены ў нашых хатах, але яшчэ і спляжылі яны нам вуліцу, знішчылі вадасцёкавыя трубы, масткі. Таму веснавыя воды з палеткаў цяпер заліваюць нашу вёску, а тая наша вуліца зрабілася падобнай на роў які. Вуліцу гэту ізноў перакапалі; бо правялі нам водаправод. Даволі надбайна, зрэшты, бо водаправодныя трубы паклалі занадта плытка ў зямлю, узімку вада ў іх пазамярзала і паразрывала трубы, прабілася наверх. Тады адгравалі зямлю, каб паладзіць аварыі. Потым гэтых аварыяў аказалася больш, у васьмі месцах, і трэба было ўсю галоўную лінію будаваць нанова.

Скончылася бяда з вадою, прыехалі манцёры змяняць драўляныя тэлефонныя слупы на бетонныя. Гэта пазбавіла нас святла. Манцёры ўзяліся нешта рабіць, навазіўшы матэрыялаў. Людзі сыйшліся паглядзець, а Аляксандр Хлябіч, мой хрышчоны, рады людзям дапамагчы. Гавораць, што ў свайго татульку ён удаўся. Вось ён і сказаў: давайце паможам ім, то хутчэй святло тое будзе нам. Ну, і мы пачалі дапамагаць: спілавалі каштан, тры вялікія бярозы, якія перашкаджалі лініі, рабілі ўсё тое, дзе не былі патрэбны спецыялісты. Таму ўсяго двое сутак пабылі мы без святла. Манцёры чыста схвалілі нас, нашу вёску Рыбакі! А ўсё таму так сталася, што хрышчоны ўдаўся ў татульку. Тады я напраўду зразумеў, што сказаў той манцёр, гаворачы мне: усё будзе залежыць ад людзей вашых.

Як крыху зямля на нашай вуліцы зляглася, пачалі цягнуць праз яе каналізацыю ад Багнюкоў, з ачышчальні для гатэля. Правялі яны яе пад Рыбакі, а тут гара, на якой стаіць школа. Ад поўначы там строма і растуць сосны, прывезеная землекапалка, хоць і вялізная, не змагла так высока кідаць зямлю. А ад паўднёвага ж боку — стаяць будынкі, няма як развярнуцца-разгарнуцца. І не наваліш зямлі на дарогу, бо па ёй рух вялікі сунецца. Трэба было выкапаную зямлю адразу адвозіць машынамі, а затым ізноў прывозіць (каб было чым засыпаць роў для каналізацыі тае). А капаць трэба было якіх шэсць метраў глыбіні і столькі ж метраў шырыні, таму што пясок абвальваўся. А некаторыя ж хаты вельмі блізка вуліцы стаяць! Мы думалі, што з тыдзень не будзе як выехаць са свайго панадворка. Але ўсё скончылася шчасліва: і платы засталіся на сваім месцы, і каналізацыю тую ўрэшце неяк правялі як трэба.

**Ф. Хлябіч**




### БЛІНЫ

**Бліны на рошчыне**

На паўтары шклянкі мукі трэба ўзяць паўтары шклянкі малака ці вады, 1 чайную лыжачку цукру, 1 яйцо, 20 г дражджэй, 2 сталовыя лыжкі алею, соль.

Рашчыніць бліны. Уліць у посуд 2/3 падагрэтага да 35-40 градусаў Ц малака (альбо вады), развесці дрожджы, усыпаць палову мукі і добра размяшаць, пасля чаго накрыць і паставіць у цёплае месца на адну-паўтары гадзіны. Пасля гэтага дадаць цукар, соль, жаўток, алей, муку, якая засталася, і рэшту падагрэтага да 40-45°Ц малака. Усё вельмі добра размяшаць. Калі цеста падрасце, замясіць яго і зноў паставіць у цёплае месца, каб падрасло. Пазней цеста замясіць яшчэ раз, дадаць збіты бялок і смажыць бліны.

Гатовыя бліны можна падаваць, напрыклад, са скваркамі.

**Бліны „хуткія"**

На паўтары шклянкі мукі трэба ўзяць 2 шклянкі кефіру, 1 сталовую лыжку масла, 1 яйцо, палавіну чайнай лыжачкі соды, лімонную кіслату, соль.

У міску ўсыпаць муку, дадаць жаўток, соль і растопленае масла. Добра размяшаць і развесці кефірам або кіслым малаком. Бялок збіць на цвёрдую пену і дадаць у цеста. Соду распусціць у шклянцы вады, дадаць некалькі кропель лімоннай кіслаты, уліць у цеста, размяшаць і смажыць бліны.

**Бліны ў макавым соусе**

На макавы соус трэба ўзяць: 6 сталовых лыжак маку, 4 сталовыя лыжкі цукру, чвэрць шклянкі малака.

Падрыхтаваць бліны на рошчыне, як у першым нашым рэцэпце. Мак памыць у цёплай вадзе, заліць кіпетнем, закіпяціць і дакладна расцерці з цукрам, дадаючы гарачага малака. Гатовыя бліны падаваць, палітыя макавым соусам.

**Гаспадыня**

(Працяг са стар. 7)

## НА ШЛЯХУ Ў ІРАН

сакавіка таго ж года зноў стала рабром пытанне: ці 5 дывізіі ісці на ўсходні фронт ці не? Яе камандаванне было „за". Андэрс аднак, каб раз і назаўсёды выбіць з гарачых галоў сваіх падкамандных афіцэраў думку аб супольнай барацьбе палякаў і рускіх супраць немцаў, прося ўволю з камандных пастоў і генерала Баруту-Спяховіча і падпалкоўніка Зыгмунта Берлінга. Камандзірам 5 дывізіі стаў тады паслухмяны Андэрсу палкоўнік (а затым і генерал) Нікадэм Сулік. Неўзабаве, бо ўжо пад канец сакавіка 1942 года, распачалася эвакуацыя Польскай Арміі з СССР у Іран — з Краснаводска цераз Каспійскае мора — у іранскі горад Пахляві. Паплылі туды і Бартнічук. Паплыў, бо атрымаў гэтакі загад. Але гэта ўжо зусім іншая справа, якая патрабуе асобнага расказу.

**Віктар Рудчык**




Сэрцайка, ці ты з глузду з'ехала? Нашто ты друкуеш водгукі розных свісталёнпаў?! Я б гэту тваю Валю (тую, што здрадзіла Грышу на імянінах) хутка розуму навучыў.

Няма лепшага лякарства на здрадлівую бабу, чым помста. Пайшоў бы я хадзіць налева і направа, во тады б паскакала, ды пабегала.

З бабай — яно так: ты яе лупіш, як сабаку, а яна яшчэ больш да цябе прывязваецца, ты ёй здраджваеш, а яна тады на другога нават глянуць не схоча. Гэта ўжо цвёрда ведаю з вопыту.

І таму, Сэрцайка, кепска ты раіла Грышу (хадзі, шукай, чакай, перапрашвай). Усё гэта будзе накіравана якраз супроць яго. У галаве ў бабы перавернецца! Гаварыць не схоча. Невядома чаго яшчэ патрабаваць стане. А нашто Грышы гэткія клопаты?!.. Ці не лепш было б разглядзецца навокал і заняцца (на нейкі час) іншай дзяўчынай?!! Пахадзіць з ёю туды-сюды, каб Валя ўбачыла, ды каб і людзі бачылі і Валі (калі сама не ўбачыць) данеслі! Не кажу ж, каб Грыша пхаўся адразу да новай дзяўчыны ў ложак (гэта можа для яго кепска скончыцца). Але павінен рабіць уражанне, што ён з ёй у вельмі блізкіх адносінах. А тады сам убачыў бы, як усё змянілася б.

А ты, вось Сэрцайка, нейкую мямлю з Грышы ахвотна зрабіла б...

**Разумны Змітрук**

Змітрук (разумны)! Можа, твой спосаб і здаў бы ў нейкай меры экзамен. Аднак не кожны рэцэпт аднолькава пасуе да кожнай бабы.

А вось, напрыклад, возьме такая і ўзлуецца. І выйдзе замуж — за абы-каго, толькі дзеля таго, каб даказаць табе, што яна яшчэ лепш умее. Але выйдзе! Ну, і што, вернеш тады дзяўчыну?

У тваіх парадах небяспека якая! Дапусцім, ты пайшоў, як кажуць, „у танга". Адна дзяўчына, другая... Трэцяя зацяжарыла, скажа, што будзе радзіць дзіця. І ажэнішся, браток, і ты абы-як, выпадкова, „з мусу". Шкада мне цябе, разумны Змітрок! Будзеш іграць з пачуццямі — можаш прайграць жыццё.

**Сэрцайка**

## БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ!

Добры дзень, „Ніва"!

Я хацеў бы звязаць свой лёс з беларускай дзяўчынай. Мне 25 гадоў. Я працую на гаспадарцы ў бацькоў на вёсцы. Я б хацеў перайсці на гаспадарку да жонкі. Але вось бяда ў мяне: я хворы на эпілепсію (падачка). Я лячуся, а прыступы ў мяне бываюць раз у чатыры месяцы. Гэта здараецца наогул уначы. Алкаголю я не п'ю, але куру папяросы. Я б хацеў, каб напісалі да мяне дзяўчаты з такой жа хваробай. Буду вельмі ўдзячны за прысланыя мне лісты. Вельмі я б быў рады, каб атрымаў лісты з Савецкага Саюза.

Я — беларус. Кажуць, што з мяне прыстойны хлопец. Ды толькі адно не дае мне спакою: увесь час думаю, што ніколі не ствару добрай і каханай сям'і... А я ж так люблю дзяцей і ўсё, што прыгожае на нашай прыгожай беларускай зямлі.

На гэтым заканчваю свой скромны ліст. І вельмі прашу пісаць мне на рэдакцыю (Мікалаю).

**Мікалай**

# СОННІК

20

**Вінная** крама — прамінаючае непаразуменне.

**Віно** піць — бясклапотныя часы; чырвонае — добры настрой; белае — задавальненне; разліць — змарнаванае шчасце.

**Віншаваць** — мець шчырых сяброў; атрымаць павіншаванне — фальшывыя звесткі.

**Вір** у рацэ — небяспека.

**Вісельня** — амбітныя планы і жаданні.

**Вісельнік** — нястача ў грашах.

**Віхор** — страта маёмасці.

**Вішні** есці — сварка; рваць — радасць; у кветках — шчасце, гульня; печыва з вішнямі — непаразуменні.

**Віяланчэль** — патрабуеш дапамогі.

**Воблакі** цёмныя — памылка; светлыя — радасць.

**Вогнішча** — доўга будзеш па-за домам; распальваць — прыемнае наведанне.

**Водаправод** — спадчына, якой ты спадзяешся, абміне цябе.

**Водпуск** — ісці ў яго — тваe намеры ўдадуцца.

**Воз** — ехаць на ім — дабрабыт, здзейсненыя мары; упасці з яго — непрыемнае здарэнне; без коней — не хопіць сілы ажыццявіць задуманае; перакулены — страты; паламаны — парваная дружба; цягнуць яго — натугаю дабіцца свайго; фурман — павелічэнне маёмасці.

**Возік** дзіцячы — шчаслівае замужжа ці жаніцьба; інваліды — ранняя старасць.

**Возера** — скарбы; усхваляванае, бурлівае, — перашкоды ў каханні; лавіць рыбу ў ім — благое замужжа або жаніцьба.

**Войска** — добры даход.

**Воклічы**, выкрыкі — радасныя навіны.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## АПАВЯДАННІ АБ ПРЫРОДЗЕ

## КОТ—ЛЯТУН

У суботу мы з сябрам Анатолем накіраваліся на пошукі зарасніkоў асоту. Хацелі набраць у яго шэрых бутонах арэшкаў, у якіх ёсць маленькія белыя чарвячкі — найлепшая нажыўка для рыбы. Выйшлі на ўскраіну вёскі Падзамша, да якой ушчыльную падступаюць тарфянікі. Асоту па берагах выкопак было шмат. Мы абрывалі калючыя шышкі і гэтак наблізіліся да нізкарослага бярэзніку. Тут нашу ўвагу прыцягнула гарэзлівае стракатанне сарок.

— Чаго яны ўсхадзіліся? — пацікавіўся Анатоль.

— Можа, сабака які бегае ці заяц залёг, — кажу я. — Нішто жывое не схаваецца ад вачэй сарок.

Потым мы ўбачылі вялікага чорнага крумкача, што кружыўся над бярэзнікам. Ён то кідаўся ўніз, то імкліва ўзлятаў угору.

— Не, тут нешта не так, — пакруціў галавою Анатоль, і мы напрасткі падаліся ў хмызняк.

— Глядзі, заяц сядзіць, — паказаў рукою Анатоль.

Я прыгледзеўся.

— Які ж гэта заяц! Гэта ж кот старога Салянскага.

Тым часам крумкач зноў сарваўся ў штопар, чыркнуў ката крылом. Той падскочыў, узмахнуў лапай. Мурлыка нешта еў і быў незадаволены, што яму перашкаджаюць.

Мы стаіліся за бухматай елачкай, каб паглядзець, што ж будзе далей.

Атакі крумкача паўтараліся раз за разам, а сарокі сваім стракатаннем нібы падбадзёрвалі яго. Нарэшце кату надакучыла нахабства крумкача. Ён перастаў палуднаваць, замёр. Калі крумкач зноў кінуўся на яго, кот скочыў насустрач і ўчапіўся вострымі кіпцюрамі ў пер'е. Птушка свечкай ўзнялася ўгору, а з ёю і мурлыка.

Пэўна не паздаровілася б кату, калі б ён своечасова не адчапіўся ад крумкача. Ляснуўшыся аб зямлю, кот з хвіліну няўцямна пазіраў услед перапалоханаму крумкачу, потым пастаўіўшы хвост трубой памчаўся да вёскі.



Удзельніцы дэкламатарскага конкурсу Марыся Хмур і Івона Амельянюк з Дубяжына. Фота Я. Чэрнякевіч.

## НЕЗВЫЧАЙНЫЯ РЫБАЛОВЫ

Кіламетраў за дзесяць ад Глуска ёсць маляўнічае возера Баравое. Яно неглыбокае, але карасёў у ім шмат.

Як звычайна, у нядзелю мы зноў прыехалі сюды. Размясціліся паміж густых лазовых кустоў. Сярод іх было зацішней, не так даймаў халаднаваты вецярык.

— Каб хоць сонца, — кажа Анатоль і пазірае на неба. Рыбалка пайшла б весялей.

Апоўдні надвор'е наладзілася, і рыба лепш пачала брацца. Калі ж прыгрэла сонца, нам сталі перашкаджаць вужы, якія выпаўзалі з кустоў і баразнілі каля берага ваду, адганяючы рыбу, а жабы, як апантаныя, кідаліся на паплаўкі.

— Каб вы папруцянелі! — ускіпеў Анатоль і ляснуў вудзільнам па вадзе.

Змянілі месца. Але і там не было лепш. Не давалі спакою маленькія рыбкі — „шпроты" як мы іх завем. Яны надзвычай пражэрлівыя. Такая вось рыбка-драбязуха, з запалку велічынёй, можа праглынуць чарвяка ўдвая большага за сябе.

„Шпротаў", якія траплялі на кручок, падбіралі на беразе жабы.

— Глядзі, глядзі! — раптам здзіўлена ўскрыквае Анатоль і паказвае на паплавок, што скача ў куст. Ён падымае вудачку, і мы бачым на кручку вялікую зялёную жабу, з рота якой тырчыць хвост рыбкі-драбязухі. Вось дык рыбалоў!

Праз нейкі час мы зноў убачылі незвычайнае: вясковы хлопец злавіў на вудачку вужа. Ён як і жаба, пакваліўся на рыбку і трапіў на кручок.

Аказваецца, жабы і вужы палююць і на дробную рыбу.

Што ні кажыце, а ў прыродзе часта можна сутыкнуцца з нечаканасцю.

Ул. Трыбуналаў



Ваня Іжвінскі з Відава вучыцца ў школе № 4 у Бельску. Ён ужо чытач „Зоркі". Фота А. Гаўрылюк.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

ЕЎДАКІЯ ЛОСЬ

### РАБОТНІК

Мой тата вылечвае болі,
А мама баранкі пячэ,
А Лена — настаўніца ў школе.
А я першакласнік яшчэ.
Пішу я, чытаю ўсё лепей,
Аж покуль не сцішуся ў сне,
Дык тата, і мама, і Лена
Работнікам клічуць мяне.

### Я ЧЫТАЮ

З бабуляй удваіх мы дома.
— Бабуля, кніжку пачытаць?
Бабуля кажа: — Ну, вядома,
Чытай, каб нам не сумаваць!

І вось пачаў чытаць я кніжку
Пра зайку шэрага, пра мішку,
Пра Бармалея, кракадзіла...
Мяне бабуля пахваліла:

— Глядзі, як добра прачытаў,
Хоць кніжку дагары трымаў!

### ПТУШКІ

Члапае чапля,
Жораў жыруе,
Бусел у ботах
Па лужах вандруе.

Канькае каня,
Пліска лятае,
Дзяцел стракаты
Зязюлю пытае:

— Дзе ты, зязюля,
Падзела яечка,
Чаму не паклала
Ў сваё гняздзечка?

АЎГІННЯ КАВАЛЮК

### ГАЛУБОК

Галубок вуркоча ціха,
На карнізе прымасціўся
І адтуль не адлятае —
У акенца заглядае.
Ён хвалюецца, бо Коля
Сёння першы дзень у школе.

### МЫЮЦЦА КАЦЯНЯТЫ

Лапкай мяккай без вады
Умываюцца каты.
Мыюць вушы, і насы
І на спінцы валасы.
Так, як мамы,
Так, як таты,
Мыюцца і кацяняты.

СТ. КАЦУБА

### БАКАСАВЫ ПЕСНІ

Абудзіўся ранак весні,
Зазвінелі ўсюды песні.
На світанні каля гаю
Бакасы адно спяваюць:
— Бусел, бусел даўганосы,
Ты чаму астаўся босы?
— Мераў дзень пры дні балоты
І знасіў дашчэнту боты.

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## ПЧОЛКА
Казка

Калісьці ўсе пушчанскія звяры жылі ў вялікай згодзе. Часта збіраліся разам на якой-небудзь паляне на свае сходы-зборы, ладзілі розныя гульні і вадзілі карагоды, таксама і ў госці хадзілі адзін да аднаго.

Усё было так ладна і складна, ажно здарылася такое.

Аднойчы пагнаў хлопчык пасвіць коз. Гоніць іх так, гоніць дарожкаю каля агародаў, а тыя козы — скок! — і ў агарод, і да капусты. Давай хлопчык іх выганяць. Гоніць-гоніць і выгнаць не можа. Ядуць козы капусту — толькі хрумстанне па ўсім агародзе раздаецца. Сеў хлопчык на мяжы і плача.

Бег узмеж агародаў зайчык, убачыў хлопчыка, як той горка плача, пытаецца ў яго:

— Чаго плачаш, хлопча?

— Як мне не плакаць! — праз слёзы той кажа. — Вунь улезлі козы ў капусту, і аніяк не магу іх выгнаць.

— Не плач, — яму зайчык на тое, — пайду я выганю.

— Ой, не выганіш, зайча, іх, — бядуе хлопчык. — Надта ж непаслухмяныя яны.

— Нябось, як крыкну ды як тупну — адразу паслухаюцца, — заганарыўся заяц.

Гнаў зайчык коз, гнаў і аніяк выгнаць не можа. І тупацеў, і вішчэў, а тыя грызуць сабе капусту і ў яго бок не глядзяць. Сеў зайчык каля хлопчыка і таксама заплакаў.

Бегла мяжою ліса, убачыла зайчыка і пытаецца:

— Чаго плачаш, зайчык?

— Плачу я, бо хлопчык плача, а хлопчык плача, бо коз з агарода выгнаць не можа.

— Не плачце, — суцяшае ліса. — Я зараз іх выганю.

— Ой, не выганіш, ліска, іх — лямантуе зайчык. — Вельмі ж шкодныя гэтыя козы.

— Мне даволі хвастом вільнуць, як яны з агарода подбегам пабягуць, — зафанабэрылася ліса.

Гнала-гнала ліса коз з агарода і аніяк выгнаць не можа. І хвастом віляла, і голас падавала, а козы хоць бы што: цярэбяць сабе капусту і годзе. Села ліса каля зайчыка і заплакала.

Бег паблізу воўк, убачыў, як у лісы слёзы з вачэй коцяцца, пытаецца:

— Чаго плачаш, ліска?

— Плачу я, бо зайчык плача, зайчык плача, бо хлопчык плача, а хлопчык плача, бо коз з агарода аніяк выгнаць не можа.

— Не плачце, — прамовіў воўк, — я іх мігам выганю.

— Ой, не выганіш, воўча, іх, — галосіць ліска, — надта ж ліхія козы.

— Ну! Хай жа я раз зубамі скрыгану ці лясну — яны маланкаю з агарода пабягуць.

Кінуўся ён да коз, гнаў іх, гнаў і аніяк выгнаць не можа. Зубамі скрыгатаў і ляскаў, нават выць пачаў, а козы і слухаць яго не збіраюцца: латошаць сабе капусту і аблізваюцца. Сеў воўк каля лісы і заплакаў.

Па-над агародамі ляцела маленькая пчолка. Убачыла яна, як воўк слязьмі заліваецца, пытаецца:

— Чаго плачаш, воўча?

— Плачу я, бо ліса плача, ліса плача, бо зайчык плача, зайчык плача, бо хлопчык плача, а хлопчык плача, бо коз з агарода аніяк выгнаць не можа.

— Гм-м-м... Дрэнная справа, — зажурылася пчолка. — Але не плач, папрабую я іх выгнаць.

Паляцела яна да адной казы і — „бзом-бзом-бзом!" ёй у вуха, потым да другой — „бзом-бзом!", затым да трэцяй — „бзом!". Так усім козам у вушы набзомкала. Застрыглі козы вушамі, затрэслі галовамі, задзерлі свае куртатыя хвасты і далі драла з агарода.

Зверам аж не па сабе стала, што маленечкая пчолка паказала сябе мацнейшай за іх, вялікіх. Разбегліся яны хто куды ад сораму і па сённяшні дзень не сыходзяцца разам.

**Апрацаваў М. Гайдук**

*1. Прачытайце казку з падзелам на ролі.*

## Пазнаёмімся

ССCР, 606202, Горьковская обл., г. Кстово, III микрорайон, д. 24, кв. 14. Захаровой Лене. 5 клас.

* * *

ССCР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, п. Майский, ул. Образцова, 26, кв. 31. Бамбук Лена. 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90 кв. 32. Таня Даўнаровіч, вучаніца 3 класа.

* * *

ССCР, 346506 Ростовская обл., г. Шахты, пр. Ленинского Комсомола, 48/2, кв. 73. Гаджимедовой Ларисе.

* * *

ССCР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, п. Майский, ул. Образцова, 26, кв. 24. Назаровой Тане. 5 клас.

* * *

ССCР, 344020, г. Ростов-на-Дону, ул. Грисенко, 68а, кв. 20. Карбановская Галина. 5 клас.

* * *

ССCР, 346511, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Красный, ул. Горная 19а, Кардаш Людмила. 5 клас.

* * *

ССCР, 344020, г. Ростов-на-Дону, II пос. Орджоникидзе, ул. Арефьева, 26, Гавриленко Света. 4 клас.

* * *

ССCР, 346511, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Красный, ул. Горная, 12. Лыковой Лене. 5 клас.

## Пішуць школьнікі

### ЯК МЫ ВІТАЛІ ВЯСНУ

*21 сакавіка зухі нашай школы разам з дружнай Таісай Хілімонюк і старэйшымі вучаніцамі Рэнатай Асіпюк і Галінай Кіцэль пайшлі тапіць саламяную лялькu, якая сімвалізавала надаеўшую зіму. Гэта быў якраз дзень канца зімы і пачатку вясны.*

*Мы неслі лялькu праз усю вёску да сажалкі і там хлапчукі ўкінулі яе ў ваду. Усё гэта адбывалася пад гукі розных вясёлых гарцэрскіх песень.*

*Свята сустракання вясны закончылася балем, на якім бавіліся ўсе вучні малодшых класаў.*

**Янка Янюк, вуч. VII класа, школа ў Барысаўцы.**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА"!

*Мы, вучні Падставовай школы ў Нурцы, хочам перапісвацца. Надрукуй нашыя адрасы ў сваім куточку „Пазнаёмімся". Наша школа харошая і вялікая, і вучыцца тут шмат вучняў. Мы вельмі просім, каб да нас пісалі.*

*Наш адрас: Школа Падставова ў Нурцы, пошта 17-112 Нурэц, Беластоцкае ваяводства. Аня Хвашчэўская (4 клас), Бэата Федарук (5 клас), Багуся Юрчук (2 клас), Аля Леўчук (4 клас), Эля Барташук (4 клас).*

*„Зорка", мы, уся наша школа, хочам, каб у „Ніве" былі загадкі і новыя вершы, бо тыя мы ўжо ведаем. Да пабачэння.*

### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

*Мы хочам падзяліцца з табою сваімі ўражаннямі з экскурсіі ў лес, на якую мы нядаўна хадзілі.*

*Нашым заданнем было знайсці ў лесе вясну.*

*І мы яе знайшлі.*

*У лесе ўжо нідзе не было снегу. Сонечныя праменні высушылі мокрыя лужыны. Зазеляніела трава. З зімовага сну абудзіліся мурашкі і матылькі.*

*Калі мы прыслухаліся, пачулі спеў жаўранка. Дзесьці далей стукаў дзяцел.*

*На лясной палянцы мы гулялі ў жмуркі.*

*Час праходзіў вельмі хутка і мы былі вымушаны вяртацца ў школу.*

*У лесе мы добра адпачылі.*

**Вучні пятага і шостага класаў школы ў Дашах.**

## БУДЗЕ ЗЯЛЁНА

У мінулым годзе ў Нараўчанскай гміне пасадзілі 1300 маладзенькіх дрэўцаў ліпы і вярбы, а таксама 2500 кустарнікаў — лігустры, алычы, айвы і чорнай парэчкі.

Хутка пусцяць зялёныя лісточкі медансовы дрэўцы ліпы каля школы, прадшколля і керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове, а таксама ў вёсцы Семяноўка. Ля помніка ў цэнтры Нараўкі былі пасаджаны ружы.

Сёлета вучні пасадзяць пўтары тысячы дрэўцаў і кустарнікаў ля школ у Семяноўцы і Нараўцы. (яц)

## Вучнёўская творчасць

*Мне 15 год і завуць мяне Эля. Я вучуся ў школе № 3 ў восьмым класе. Вывучаю беларускую мову. Вядзе яе ў нас настаўніца Марыя Яканюк. На ўроках мы часта карыстаемся „Нівай" і вельмі любім чытаць „Беларускі фальклор". Праглядаючы „Зорку", я натрапіла на вершы, якія пішуць вучні. Вершы гэтыя мне здаліся вельмі цікавыя і прыгожыя. А мая мама падказала мне, каб і я выслала свой верш, бо ў мяне іх таксама нямала ўжо напісаных. Высылаю Табе свой верш „Дарога".*

### ДАРОГА

Бяжыць дарога праз лес,
Бяжыць дарога полем...
Тут на яе мядзведзь вылез,
Там над ёю крычаць вароны
хорам...

А дарога бяжыць спакойна,
То вузкая, то шырокая.
Сунецца павольна,
Ідзе ў свет далёка.

Там прывітаецца з дрэвамі,
Тут з рэчкай пашэпча,
Вучыцца спяваць з птушкамі,
У нагу з чарвячком дрэпча.

**Эля Сцепанюк, школа № 3 ў Гайнаўцы**

### БЕЛАСТОЧЧЫНА

Ты мая, Беласточчына,
Край маіх мараў і дум.
Дзе ні была б я,
Да цябе я заўсёды вярнуся.

Я вярнуся не поездам,
Самалётам, можа, не прылячу.
І кіламетраў сто не прайду,
Але сэрцам да Цябе
Прытулюся.

Не пакіну Цябе я,
Мілая мая,
Не пакіну ніколі Цябе.
Ты і бацькам мне,
Ты і маці мая,
Ты мне любая
Заўсягды.

Беласточчына!
Ты шуміш, як мора.
Беласточчына!
Ты звоніш у сэрцы,
як звон.

**Марыя Ф.**

**(Прозвішча да ведама рэдакцыі)**

### АДГАДАНКА



Хто які шарык нясе?



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-959 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы папулярнай песні „Беларусачка“, якая будзе перадавацца ў беларускай перадачы Беластоцкага радыё 17 мая а 18-ай гадзіне.

### БЕЛАРУСАЧКА

**Я гляджу на твае косы русыя —**
**Не магу наглядзецца ніяк.**
**Беларусачка, беларусачка,**
**2 разы**
**Дарагая сяброўка мая.**

**У краях незнаёмых, нязведаных**
**Буду ў радасці я, ці ў журбе,**
**Беларусачка, беларусачка,**
**2 разы**
**Не забуду ніколі цябе.**

**Я вярнуся к табе, сінявокая,**
**Калі ў кветкі адзенецца край.**
**Беларусачка, беларусачка,**
**2 разы**
**Ты хоць з рэдку мяне ўспамінай!**

**З чаго смяюцца суседзі**

### АБУРАНЫ ПЕВЕНЬ

Калі зязюля ў лесе заспявала —
Злосць пеўня да паўсмерці разабрала:
— Крылоў сказаў, што я яе
хвалю!
За што хваліць?
Я вельмі не люблю,
Калі бяруць чужое нарасхват,
Тым больш, тут непрыкрыты
плагіят.
Бо ўсім вядома,
што яе „Ку-ку“ —
Урывак з майго „Ку-ка-рэ-ку“.

**Георгі Ладоншчыкаў**







### БУДЗЕ ТОЕ, ШТО Ў ЦЮЦЬКАВІЧАХ

— Бярыце білеты, — звяртаецца да пасажыраў вадзіцель аўтобуса, бо будзе тое, што ў Цюцькавічах.

— А што ж там было?

— Ды ехалі пасажыры з Ачуцінава ў Цюцькавічы, дык так білетаў ніхто і не браў!

— Вось і ўсё? — рагочуць пасажыры.

— Ды не! Усіх іх запрасілі на пастарунак міліцыі як сведкаў таго, што вадзіцель прысвоіў іх грошы!

— Дык гэта ж несправядліва!

— Вось і я кажу, што несправядліва. Мала таго, што ў дарозе вадзіцелю па сотні тыцнулі, дык яшчэ і па тысячы штрафу ўплацілі.

### ПРЫКМЕТА

— Што намалявана на гэтай карціне — усход ці захад сонца?

— Захад.

— Чаму ты так лічыш?

— Я знаёмы з мастаком. Ён ніколі не ўстае раней дванаццаці.

### ЭКАНОМНАЯ ЖОНКА

— Мая жонка вельмі эканомная, — расказвае пан Задрыпкоўскі ў кампаніі.

— Тады зразумела, — кажа адзін з прыяцеляў, — чаму яна на сваіх імянінах, калі ёй споўнілася сорак гадоў, запаліла трыццаць свечак.

### ЗАСТАЎСЯ НА МЕСЦЫ

— Пакіньце мяне пры кафедры, — просіць выпускнік знаёмага прафесара.

— Я так і зраблю, бо з вашымі ведамі далёка не паедзеш, — адказаў прафесар.



**Дэвіз пляткара: адзін пра ўсіх!**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шатландзец расказвае суседу:

— Уяві сабе, учора я быў у кіно, і там раптам пачаўся пажар...

— І чым усё гэта закончылася?

— Усё закончылася вельмі добра. Нам вярнулі грошы за білеты.

*

Парыжанін праводзіў жонку ў аэрапорт і пасадзіў яе на самалёт у Нью-Йорк. Затым ён сеў у свой аўтамабіль і, з цяжкасцю прабіраючыся праз запруджаныя вуліцы Парыжа, дабраўся дадому. На стале ляжала тэлеграма ад жонкі: „Даляцелі шчасліва. Цалую. Мары“.

*

У паліцэйскім участку звоніць тэлефон і ўзрушаны мужчынскі голас крычыць:

— Хутчэй прыязджайце ў рэстаран „Пад гарой“. Нехта забіў кухара!

— А што ён такога дрэннага зварыў?

### ДОБРЫ НАМЕР

— Куды бяжыш, Кастусь?

— Хачу прадухіліць бойку

— А хто хоча біцца?

— Той, хто бяжыць за мной.

### ПРАВІНАВАЦІЛАСЯ

— Танечка, ты навошта ляльку ў куток паставіла?

— А каб не капрызіла.

— А чаму яна капрызіць?

— Хоча тэлевізар глядзець

**З „Весніка Задрыпоніі“**

### НАВІНЫ НАВУКІ

Маладымі біёлагамі Ачуцінава пасля доўгай і карпатлівай працы быў выяўлены новы від рыбы ў рацэ Анілінаўцы. Пры яе перапрацоўцы можна атрымаць танным шляхам не растваральны ў вадзе фарбавальнік.

### БАНТОН

Прадстаўляючы сваю жонку, не гаварыце, што гэта ваша палавіна, а скажыце, што гэта тры чвэрці.



**Матч стагоддзя.**



**Панкі ў старажытным Рыме**






### КОРАТКА І ЯСНА

Як вядома, у гатэлях такі парадак: каб пасяліцца там, трэба запоўніць лісток-анкету, указваючы пэўныя дадзеныя пра сябе.

У адным з венскіх гатэляў сярод іншых пытанняў анкеты было і такое: незамужнія, замужнія, разведзеныя? На гэта амерыканская актрыса Аналена Бакстэр адказала вельмі коратка, ясна і вычарпальна: „Усё!“

### ПЛАДАВІТЫЯ ШВЕДЫ

У маленькай Швецыі, паводле паведамлення статыстыкаў, кожныя восем гадзін абавязкова нараджаецца новы закон, які нешта дазваляе ці забараняе рабіць асобным грамадзянам ці кампаніям, ведамствам, ці анулірye дзеянне нейкага папярэдняга закону. А на працягу, скажам, дзесятка гадоў выдаецца такім чынам каля 11 тысяч законаў.

### ПАДКОРМКА

„Цяжка дзікім звярам у лесе ўзімку. Каб лягчэй было перанесці зімоўку, яны падкормліваюцца леснікамі Іванюком і Вярхоўцам“.

(З допісаў у рэдакцыю)




**Пакуль адны падымаюцца службовымі ўсходамі, іншыя выпярэджваюць іх у ліфце.**